© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012









# БОГ, ПАЗЬНЯК І БЕЛАРУСЫ

Лёс будучага прэзідэнта вырашаецца й на паламанай праз моладзь лаўцы ля пад'езда дзевяціпавярховага дома. Паморшчаныя пэнсіянэркі адзінагалосна заяўляюць, што ня пойдуць галасаваць.

**- А за Пазьняка? - пытаюся іх.**

- І за яго ня будзем галасаваць! - хорам адказваюць бабулі.

**- Чаму? - не крыючы зьдзіўленьня, задаю пытаньне.**

- Бо ён паляк, - адказвае адна за ўсіх.

**- Адкуль вы ўзялі, што Пазьняк - паляк?**

- Сам па тэлевізару гаварыў, што маліцца ходзіць у касьцёл, - адказвае ўсё тая ж адважная бабулька, а другія актыўна ківаюць галовамі.

**- Веравызнаньне й нацыянальнасьць - гэта розныя рэчы, - спрабую растлумачыць элемэнтарнае...**

- Што вы тут лапшу вешаеце на вушы, - вядзе рэй усё тая ж старэнькая. - У касьцёл ходзяць маліцца толькі палякі.

**- Дык выходзіць па-вашаму, што амэрыканцы, італьянцы, французы, нават японцы, якія моляцца ў касьцёле, зьяўляюцца палякамі?**

Аргумэнтаў у пэнсіянерак, што стварылі блёк супраць кандыдата ад апазыцыі, няма, маўчаць. Але бачу: не пераканаў я іх. Тады вырашаю зайсьці з другога боку.

**- Скажыце, калі ласка, а каб Ісус Хрыстос прапанаваў сваю кандыдатуру на прэзідэнта, вы пайшлі б галасаваць?**

Мае апанэнткі доўга маўчаць: у беларусаў не прынята гаварыць пра Бога, у яго трэба толькі верыць. Яшчэ адзін нацыянальны комплекс рабоў.

Пасьля доўгіх разважаньняў прыйшлі да высновы, што за сына Бога маглі б свае галасы аддаць.

Тады я кажу ім:

**- Ён жа яўрэй.**

Гэтым разам наступіў усім вядомы момант з п'есы Мікалая Гогаля "Рэвізор". А мне страшна хацелася даведацца, што ў гэты момант рабілася ў душах гэтых не па іх віне цёмных жанчын. Усё сваё жыцьцё яны працавалі вельмі цяжка, а жылі гаротна. Ніколі не былі гаспадарамі свайго лёсу. І вось надыйшоў момант, калі могуць штосьці вырашыць самі. Ды толькі птушка, якая доўга сядзела ў клетцы, выпушчаная на волю, не паднімаецца адразу ў сіні блакіт неба.

- Мая сястра жыве ў Беластоку, - нарэшце задуменна гаворыць адна з жанчын. - Маліцца ходзіць у касьцёл. А я тым часам малюся ў царкве. Але ж молімся то мы аднаму Богу...

Цікава, як доўга трэба чакаць, каб зьняволеная птушка зноў навучылася лятаць?

**Уладзімір МАЛАШКЕВІЧ.**





# АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ...

Зьбіўшыся ў тлум на невялічкай тыльнай пляцоўцы палаца "Тэкстыльшчыкаў" у Горадні, люд цярпліва чакаў Лукашэнку. Аляксандр Рыгоравіч хоць і спазьніўся больш як на гадзіну, але прабачэньня не папрасіў, а наадварот, абвінаваціў нейкія сілы, што нібыта зьдзейсьнілі на дарозе ці то аварыю, ці то паломку. Абяцаў з гэтым разабрацца безкампрамісна.

Прамову распачаў традыцыйнымі словамі аб барацьбе з мафіёзнымі структурамі ў вышэйшых ворганах дзяржаўнай улады. Першымі карупцыянэрамі на беларусі назваў цяперашняга сьпікера Вярхоўнага Савета М.Грыба й прэм'ер-міністра В.Кебіча. Завочна прасіў Галіну Арцымяню патрабаваць новага сьледзтва па справе забойства яе мужа Зьміцера Арцымені. Пра КДБ і МУС згадаў так: у гэтых структурах 80 % сумленных і высакародных людзей. Прагніў толькі генэралітэт. Усіх іх ён, Лукашэнка, адразу ж, стаўшы прэзідэнтам, першым жа ўказам адхіліць ад працы. Прасіў таксама Аляксандр Рыгоравіч КДБ паказаць плёнку, калі яе яшчэ не зьнішчылі, з відэазапісам першых асобаў дзяржавы ў кампаніі з мафіёзі.

Вытворцам, што вырабляюць гайкі й шрубы, гарантаваў усялякую падтрымку. Спэкулянтам, што перапрадаюць тавары, ня будзе жыцьця. Сельскую гаспадарку абяцаў паставіць на ногі праз калгасна-саўгасную сістэму. Заводы й фабрыкі прапаноўваў умацоўваць шляхам аднаўленьня страчаных сувязяў з братнімі славянскімі народамі. Аднаўленьне страчаных сувязяў жадаў распачаць у Віскулях. Нават абяцаў узяць з сабой туды жадаючых, каб назіралі за працэсам адновы магутнай дзяржавы СССР, якая была разбурана па жаданьню імпэрыялістычнага Захаду.

Пасьля гэтага чамусьці ўспомніў пра працавіты беларускі народ, які ён, стаўшы прэзідэнтам, зробіць годным і заможным, бо беларусы - гэта выдатны, цярплівы народ. Спахапіўшыся, што зашмат увагі ў прамове надаецца беларусам, пачаў апраўдвацца, што грамадзяне Беларусі - гэта і палякі, і рускія, і ўкраінцы, і ўсе маюць роўныя правы.

Прысутныя, а было іх каля трох тысячаў, пляскалі ў далоні, весяліліся. З боку гэта нагадвала падзеі 1933-1934 гадоў у Нямеччыне. Праўда, там у асноўным была моладзь. А сярод тых, хто прыйшоў падтрымаць А.Р.Лукашэнку, пераважная большасьць была пэнсійнага ўзросту. Можа, адчуваючы слабасьць і несучаснасьць натоўпу, Лукашэнка, як бы між іншым, сказаў: "Если стану президентом - выгоню весь этот хлам и шестидесятилетнее старьё."

**Г.АСТРОЎСКІ.**

# А ПРА ПІСТАЛЕТЫ – НІ ПА-БЕЛАРУСКУ, НІ ПА-РУСКУ

На мінулым тыдні Горадню наведаў Старшыня Вярхоўнага Савета РБ М.Грыб. Свой візыт ён распачаў з прадпрыемства "Радыёпрыбор", дзе азнаёміўся з вытворчасьцю. Пабачыўшы новы каляровы тэлевізар "Верас" з дыстанцыённым ўпраўленьнем, сьпікер пахваліў гарадзенцаў за навінку й за тое, што ствараюць здаровую канкурэнцыю менскаму й віцебскаму прадпрыемствам.

Галоўны канструктар завода меў магчымасьць паказаць М.Грыбу новую распрацоўку газавых пісталетаў. Праўда, генэрал, як ня дзіўна, не затрымаў на іх асаблівай увагі.

Падчас сустрэчы з працоўным калектывам сьпікер распавядаў аб цяжкім, крызісным стане, у якім зараз знаходзіцца краіна. Зазначыў, што галоўнай задачай зараз лічыць спыненьне спаду вытворчасьці. Падкрэсьліў, што надалей патрэбна больш арыентавацца на Расею, паколькі Захад неахвотна адкрывае перад намі свой рынак.

Паведаміў, што ў Вярхоўным Савеце вядзецца работа па перагляду падаткавай сістэмы, а таксама думаюць над тым, як кампэнсаваць насельніцтву страты, якія яно панесла, укладваючы свае грошы ў ашчадныя банкі ў выніку інфляцыі.

Што датычыць новага прэзідэнта, то тут сьпікер за вопытнага палітыка, абачлівага чалавека. Імя яго, канешне, не назваў, але здагадацца, аб кім вядзецца гаворка, было ня цяжка. Хаця, да ўсяго М.Грыб параіў усім вельмі ўважліва пазнаёміцца з праграмамі кандыдатаў у Прэзідэнты, каб потым зрабіць правільны выбар.

У адносінах да рублёвай зоны - сьпікер за яе, праўда, у адрозьненьні ад некаторых, хоча, каб гэта не супярэчыла Канстытуцыі.

М.Грыб наведаў таксама нядаўна адчынены пасьля рамонту літаратурны музэй М.Багдановіча і пабываў у акцыянэрным таварыстве "Гроднаабутак".

У адносінах да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі зьдзівіла адна рэч: у мікрафон і да людзей наш сьпікер гаворыць па-беларуску, а з начальствам, якое яго сустракала й вадзіла па прадпрыемствах - па-расейску.

**М.К.**

НАША
ГАЗЭТА–ШТОТЫДЗЕНЬ
У ВАШАЙ
ХАЦЕ!

Падпіска на «ПАГОНЮ»
прымаецца
ва ўсіх паштовых аддзяленьнях.
Падпісны індэкс 63124.
Кошт на месяц – 1350 рублёў,
на квартал – 4050 рублёў.

# КАСЬЦЁЛ – НЕ ПЛЯЦОЎКА ПЕРАДВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, НАВАТ ДЛЯ В.КЕБІЧА

Якія захады ні рабіў прэм'ер-міністр В.Кебіч, каб на яго сустрэчу з прадстаўнікамі каталіцкага духавенства былі дапушчаны журналісты. У прозьбе яснавяльможнаму пану было адмоўлена. З нагоды патрабаваньня В.Кебічам асьвятленьня прэсай яго сустрэчы кіраўніцтва Гарадзенскай, Менска-Магілёўскай і Пінскай каталіцкіх эпархіяў прыняло пастановы.

1. Удзел у галасаваньні для ксяндзоў, маючых грамадзянства Беларусі, дазволена ў межах, якія не пярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

2. Удзел у передвыбарчай кампаніі зьяўляецца палітычным актам і таму, маючы на ўвазе апалітычнасьць каталіцкага касьцёла, ксяндзы, што маюць прыходы на Беларусі, ня маюць права браць удзел у агітацыі.

3. Неабходна захоўваць поўны нэйтралітэт у адносінах да усіх кандыдатаў на прэзідэнта.

4. Катэгарычна недапушчальныя пропаведзі, заклікі й г.д. у касьцёлах і на каталіцкіх могілках за таго ці іншага кандыдата.

5. Любы ўдзел ксяндзоў у перадвыбарчай кампаніі можа трактавацца ўладнымі структурамі як умяшальніцтва каталіцкага касьцёла ў палітыку дзяржавы й дае падставы для некарысных захадаў у існаваньні структураў і дзейнасьці каталіцкага касьцёлу на Беларусі.

6. Разьлічваючы на поўнае разуменьне актуальнай сытуацыі каталіцкага касьцёлу на Беларусі й на добразычлівыя адносіны да яго, патрабуем ад шаноўных ксяндзоў аднесьціся да пастановы як да агульнага дабра касьцёла на Беларусі.

**Біскуп А.КАШКЕВІЧ,**
**ардынарый Гарадзенскі.**
**Архібіскуп К.СЬВЁНТЭК,**
**Мэтрапаліт Менска-Магілёўскі,**
**адміністратар Апольстальскі**
**эпархіі Пінскай.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







Пазьняк Зянон Станіслававіч нарадзіўся 24 красавіка 1944 года ў м.Суботнікі Іўеўскага р-на Гарадзенскай вобласьці. Яго бацька Станіслаў Янавіч і маці Ганна Яўхімаўна - карэнныя беларусы, у той час працавалі на зямлі. Бацька загінуў у сьнежні 1944 г. на фроньце.

Зянон Пазьняк у 1967 г. скончыў Беларускі Дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. У 1969 годзе паступіў у асьпірантуру Акадэміі навук. У 1975 г. па палітычных прычынах звольнены з працы, дысэртацыю кандыдата навук вымушаны быў абараняць у Расейскай Федэрацыі, у Ленінградзе. З 1976 г. працуе старэйшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце гісторыі, дасьледуе помнікі археалогіі й архітэктуры позьняга сярэднявечча.

Адкрыў Курапаты. У 1988 г. быў ініцыятарам стварэньня БНФ. У 1990 г. абраны народным дэпутатам. Старшыня Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.

Пазьняк - валявы чалавек. Даводзіць задуманае да канца, не спыняецца перад цяжкасьцямі. Можна не сумнявацца, што сваю запаветную мару - убачыць родную Беларусь свабоднай і багатай краінай - ён зьдзейсьніць.

**Управа Сойму БНФ.**

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ - ГЭТА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, СПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ І ПАРАДАК

**Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і яго кіраўнік Зянон Пазьняк выступаюць за ўладу для народа, а не для с карумпаванай намэнклятуры. Таму пасьля перамогі на выбарах мы перш за ўсё:**

## Усталюем у грамадзтве законнасьць і парадак

Органы ўлады, міліцыя, армія, будуць ачышчаны ад карупцыянэраў. Злодзеі павінны сядзець у турме, а не займаць дзяржаўныя пасады.

Будуць прыняты спэцыяльныя законы, дадзены адпаведныя правы й сродкі праваахоўным органам для барацьбы са злачыннасьцю.

Будзе спынена намэнклятурная "прыхватызацыя". Усё, што намэнклятура нарабавала ў дзяржавы, будзе вернута праз суд.

Дзяржаўныя межы Беларусі будуць адкрытыя для гандлю, чалавечых кантактаў, але закрытыя для злачынцаў. Наша краіна больш ня будзе прахадным дваром для мафіёзных груповак іншых краін. Будзе забаронены гандаль зброяй.

## Сфармуем урад сумленных прафэсіяналаў

Пачнуцца сапраўдныя рэформы ў інтарэсах Беларусі й яе народу.

Будуць уведзены стабільныя беларускія грошы. Гэта спыніць інфляцыю й рост цэн, запоўніць прылаўкі якасным таварам.

Беларуская эканоміка будзе адкрыта для свабоднага гандлю. Новы ўрад будзе імкнуцца да заключэньня раўнапраўных эканамічных пагадненьняў з усімі краінамі, а найперш з суседнімі.

Зьменіцца бюджэтная палітыка, што дазволіць зьнізіць падаткі й падтрымаць вытворцаў.

У той жа час будзе ўведзены прагрэсіўны падатак на нерухомасьць. Уладальнікі шыкоўных маёнткаў будуць плаціць падатак, які пойдзе ў фонды сацыяльнай дапамогі пэнсіянэрам і дзецям.

Новы ўрад будзе праводзіць пасьлядоўную праграму раздзяржаўленьня й прыватызацыі ў інтарэсах простых людзей.

Новы закон аб зямлі спросьціць яе перадачу ў прыватную ўласнасьць тым, хто на зямлі працуе. Але мы супраць гвалтоўнага разгону калгасаў: мы выступаем за паэтапную іх рэарганізацыю ў сельскагаспадарчыя кааперативы, акцыянэрныя таварыствы, фэрмерскія гаспадаркі й г.д.

Будзе створаны рынак нерухомасьці, а новы закон аб інвэстыцыях прывабіць у Беларусь замежных інвэстараў, якія прынясуць сучасныя тэхналёгіі й створаць новыя месцы працы для грамадзян нашай краіны. Новы ўрад стварыць належныя ўмовы для людзей высокакваліфікаванай працы й для разьвіцьця беларускай навукі.

Новае кіраўніцтва скарыстае выгоднае геаграфічнае становішча Беларусі. Беларусь будзе атрымліваць вялікія грошы за трубаправодныя, чыгуначныя, паветраныя і іншыя транзітныя перавозкі праз нашу тэрыторыю. Будзе ажыцьцёўлены праект Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара, які дазволіць Беларусі і іншым суседзям купляць нафту там, дзе яна дзешавей.

Будзе ўзяты курс на эканамічную інтэграцыю Беларусі і іншых дзяржаваў Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропы, а ў пэрспэктыве - на ўваходжаньне Беларусі ў агульнаэўрапэйскія эканамічныя структуры.

## Зробім, каб дзяржава служыла сваім грамадзянам

Адбудзецца кампэнсацыя страчаных у выніку інфляцыі грашовых укладаў.

Новы ўрад накіруе грошы з чарнобыльскага падатку на дапамогу пацярпелым людзям, а не чыноўнікам. Будзе прыняты закон аб выкарыстаньні іншаземнай рабочай сілы. Вакантныя рабочыя месцы, ў першую чаргу, будуць займаць грамадзяне Беларусі.

Новы ўрад створыць новую сістэму сацыяльнай абароны насельніцтва.

Дзяржава будзе абараняць тых, хто ў такой абароне мае патрэбу.

Беларуская дзяржава забясьпечыць пэнсіянэрам спакойную старасьць.

Дзяржава падзеліцца з пэнсіянэрамі, перадаўшы частку сваёй маёмасьці на карысьць пэнсійнага фонду. Мы лічым найважнейшым дзяржаўным клопатам прэстыж і дабрабыт сям'і. Час выхаваньня дзяцей будзе залічацца ў працоўны стаж жанчын. Маладыя сем'і будуць атрымліваць доўгатэрміновыя ільготныя крэдыты на будаўніцтва жыльля.

Выдаткі на адукацыю й культуру - гэта грошы, укладзеныя ў будучыню нацыі. Трэба разьвіваць багатую беларускую культуру і ў традыцыйных, і ў сучасных формах, нельга дапусьціць, каб у нас панавала прымітыўная масавая культура.

## Умацуем беларускую дзяржаву

Будзе ўведзена зручная й бліжэйшая да людзей сістэма мясцовай улады.

Мясцовых кіраўнікоў будзе выбіраць непасрэдна сам народ.

З Беларусі будуць выведзеныя расейскія войскі. Новы ўрад нацыяналізуе незаконна перададзеную іншым дзяржавам ці іх суб'ектам дзяржаўную маёмасьць Беларусі.

Будзе ўмацаваны нэйтралітэт Беларусі. Беларускія салдаты й афіцэры ніколі ня будуць праліваць крою за чужыя інтарэсы.

Мы лічым, што галоўная задача беларускай зьнешняй палітыкі - наладжваньне раўнапраўных, узаемавыгадных партнёрскіх дачыненьняў з Расейскай Фэдэрацыяй.

Беларусь будзе трымацца міжнародна-праваных нормаў і Хельсінскіх пагадненьняў. Межы Беларусі будуць межамі міру.

Мы будзем адстойваць інтарэсы беларускай дзяржавы на міжнароднай арэне. Будзе пастаўлена пытаньне, каб урад Расеі - пераемніцы СССР - выплаціў нашай краіне кампэнсацыю за Чарнобыль.

## Аб'яднаем беларускае грамадзтва

Мы абараняем інтарэсы ўсіх грамадзян беларускай дзяржавы, незалежна ад іх нацыянальнасьці, веры ці палітычных поглядаў.

Мы гарантуем сапраўды свабодныя выбары ў новы Вярхоўны Савет Беларусі.

**Напасьледак - самае галоўнае.**

**Мы некалькі стагоддзяў не жылі ў незалежнай дзяржаве.**

**Мы адвыклі быць незалежнымі. Але мы адбудуем наш дзяржаўны дом – незалежную Беларусь.**

## ХТО АПЫНУЎСЯ ЗА БАРТОМ

Сярод тых, хто апынуўся за бортам на першым этапе па збору подпісаў ў кандыдаты на прэзідэнта, найбольшую колькасць іх сабраў Старшыня Саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін (41634). За ім ідзе Старшыня рэспубліканскага Таварыства інвалідаў Мікалай Калбаска (2800), генэральны дырэктар Міжнароднага інстытута мэнэджмэнта Віктар Цярэшчанка (19153), Старшыня парлямэнцкай камісіі па эканамічнай рэформе Лявон Козін (13168), Старшыня Польскага дэмакратычнага аб'яднаньня Эдвард Ахрэм (12270), Старшыня таварыства "Палісьсе" Мікалай Шэляговіч (3772), Старшыня сялянскай партыі Беларусі Яўген Лугін (2464), настаўнік Уладзімір Кальцоў (2319), генэральны дырэктар камэрцыйнага прадпрыемства "Роствэрг" Іван Каравайчык (1385), загадчык аб'яднаньня "Сэйсматэхніка" Уладзімір Бялоў (1223). Ніводнага подпісу не было падана камісіі ў падтрымку часова не працуючага Станіслава Ліцкевіча.

## ПАЗЬНЯК НЕ ПАВІТАЎ КЕБІЧА

Цікавы эпізод назіраўся перад пачаткам паседжаньня Цэнтрвыбаркама. Старшыня Саўміна Кебіч працягнуў руку лідэру БНФ З.Пазьняку й дзесьці на працягу хвіліны ўгаворваў паціснуць яе. Аднак той адмовіўся прывітаць прэм'ера такім чынам. Ролю "буфера" між імі выканаў каардынатар парлямэнцкай апазыцыі С.Навумчык. Гэтай сытуацыі даў камэнтар дэпутат ВС РБ Л.Дзейка: "Незразумела, ці то Навумчык - правая рука Пазьняка, ці то - левая Кебіча.

## ЛУКАШЭНКА ЗАСТАЎСЯ БЕЗ ДАКУМЭНТАЎ

Як стала вядома, А.Лукашэнка няправільна даў у падпісных лістах сваё месца працы й жыхарства. Выбарчая камісія высьветліла, што зарплаты ён у саўгасе не атрымлівае, там, дзе прапісаны - не жыве. Прапіску, што ў яго ёсьць, міліцыя павінна была ануляваць яшчэ ў 1979 годзе. Тлумачачы сытуацыю, што склалася, Лукашэнка сказаў, што ў саўгасе не працуе з студзеня, бо зьяўляецца старшынёй парлямэнцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй. Жыве ён ужо больш за год у гатэлі "Кастрычніцкі", а перааформіць прапіску ня можа, бо два месяцы таму ў яго скралі дакумэнты, што былі ў службовым легкавіку. Лукашэнка ведае, што ён знаходзіцца ў гаражы Саўміна й мяркуе, што там жа й дакумэнты. Ён паабяцаў перааформіць прапіску, дадаўшы:"Як толькі мне вернуць аўтамабіль." Пры гэтым ён зрабіў жэст у бок Старшыні Саўміна В.Кебіча.

## КАРПЕНКА ЗЬНЯЎ СВАЮ КАНДЫДАТУРУ

Сытуацыя, якая склалася вакол Г.Карпенкі, стала прадметам працяглага абмеркаваньня на паседжаньні Цэнтрвыбаркама. Спачатку ў падтрымку яго вылучэньня паставілі подпісы 78 дэпутатаў ВС РБ. Але затым 14 з іх падалі ў Цэнтрвыбаркам заявы з просьбай адклікаць свае подпісы. Перад галасаваньнем членаў камісіі, якое павінна было вызначыць, ці мелі права яны рабіць гэта, спадар Карпенка выступіў з наступнай заявай: "Незалежна ад рашэньня, якое прыме Цэнтрвыбаркам, будзе яно для мяне станоўчым ці адмоўным, я здымаю сваю кандыдатуру, бо лічу, што ў палітыцы, як і ў жыцьці, трэба выкарыстоўваць толькі чыстыя галасы. Пісьмовая заява з маім подпісам будзе перададзена ў Цэнтрвыбаркам да сканчэньня рэгістрацыі кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь."

Пасьля паседжаньня камісіі Г.Карпенка паведаміў, што разглядае магчымасьць стварэньня перадвыбарчага блока з іншымі кандыдатамі і, у прыватнасьці, з З.Пазьняком.

## І АД ЛЮБОВІ ДА КЕБІЧА ПАКУТУЮЦЬ

Пракурор Клічаўскага раёну накіраваў прадстаўленьне ў мясцовы пасялковы Савет з просьбай даць згоду на прыцягненьне да адміністрацыйнай адказнасьці дэпутата гэтага Савета дырэктара ЖКХ В.Язьвінскага. Ён абвінавачваецца ў парушэньні Закона аб выбарах прэзідэнта. У прыватнасьці, пад час першага этапа прэзідэнцкай кампаніі ён загадаў сваёй сакратарцы аформіць падпісныя лісты й распісацца за ўсіх 27 рабочых прадпрыемства. У выпадку, калі справа дойдзе да суда, Язьвінскаму пагражае штраф у памеры 10 мінімальных зарплат ці выпраўленчыя работы тэрмінам дадвухмесяцаў. Гэта пакуль першая спроба пракуратуры пакараць за парушэньне заканадаўства аб выбарах прэзідэнта.

**СІМ**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# ЭКАНОМІКА

## З ТАКІМІ ТЭМПАМІ ЧАКАЦЬ ГАСПАДАРА ПРЫЙДЗЕЦЦА ДА ДРУГОГА ПРЫШЭСЬЦЯ

**Чарговая прэсканфэрэнцыя для журналістаў вобласьці адбылася ў Гарадзенскім аблвыканкаме. Яе тэма датычылася работы ўпраўленьня па прыватызацыі дзяржмаёмасьці.**

У.Дзем'янкоў, начальнік упраўленьня, коратка распавёў аб новым этапе прыватызацыі, які распачаўся з лета бягучага года. Яго сутнасьць у тым, што маёмасьць будзе прадавацца за імянныя прыватызацыйныя чэкі.

У вобласьці налічваецца 206 прадпрыемстваў рэспубліканскай формы ўласнасьці. За ўвесь пэрыяд прыватызацыі зьмянілі форму ўласнасьці толькі 25.

Са слоў У.Дзем'янкова, пасьля выхаду поўнага блёку заканадаўчых актаў па прыватызацыі працэс гэты значна ажывіўся. Так, за чатыры месяцы бягучага года прыватызавана 12 прадпрыемстваў. Зараз працуюць камісіі па прыватызацыі яшчэ сямі.

Намечана прыватызаваць да 130 аб'ектаў вабласнога, гарадзкога й раённых узроўняў уласнасьці. Іх балансавы кошт складае 1 млрд. 181 млн. рублёў.

У гэтым годзе прададзена сем аб'ектаў камунальнай маёмасьці. Праведзены два аукцыёны ў Горадні й адзін - у Лідзе. Такая ж акцыя плануецца ў хуткім часе ў Ваўкавыску.

З 23 гарадоў вобласьці толькі ў адзінаццаці створаны аддзелы па прыватызацыі. У астатніх раёнах ёсьць толькі па аднаму ці па два спэцыялісты.

Утвораныя тэрытарыяльныя камісіі па налічэньню чэкаў. На 1 чэрвеня ў іх зьвярнуліся толькі 227 тыс. чалавек з 980 тысяч, якія маюць права гэта зрабіць. Ёсьць раёны, дзе дагэтуль за чэкамі не зьвярнуўся нават 1% насельніцтва.

Аднак справы з прыватызацыяй у нашай вобласьці йдуць ня горш, чым у іншых вабласьцях краіны.

**(ав).**

# ПАПЯРОВАЯ "МАЁМАСЬЦЬ"

**З 1 красавіка бягучага года жыхары Беларусі пачалі атрымліваць імянныя прыватызацыйныя чэкі "Маёмасьць". У кагосьці зьявілася надзея, што пасьля гэтага хутка спыніцца падзеньне вытворчасьці, зьнізяцца тэмпы інфляцыі, а выплаты дэвідэнтаў палепшаць матэрыяльнае становішча людзей.**

Ужо многія мае знаёмыя атрымалі чэкі. Вырашыў гэта зрабіць і я. Але, гартаючы падшыўку "Звязды", знайшоў артыкулы, дзе старшыня Дзяржкаммаёмасьці Беларусі В.Мацюшэўскі адказваў на пытаньні чытачоў, а ягоны намесьнік А.Ажгірэй даваў інтэрв'ю. Прачытаўшы іх, засумняваўся, ці трэба ўвогуле марнаваць час на шуканьне даведак, каб атрымаць гэтыя чэкі? Вось што пішуць вышэйзгаданыя спадары: "Для нармальнага ходу прыватызацыі павінны быць тры ўмовы. Першая: неабходна вызначыць курс дзяржавы, яе палітычнае ўладкаванне й сказаць, куды мы ідзём і што будуем. Адным словам, павінны быць створаны палітычныя перадумовы, а да іх зацьверджана нарматыўная база. Па-другое, трэба зрабіць усё магчымае, каб у нас зьявіўся сярэдні клас уласьнікаў. І апошняя ўмова: неабходна, каб у насельніцтва былі грошы ці знайшліся заможныя інвэстары, здольныя прафінансаваць эканоміку... Бяз гэтага ўсё, што мы зараз робім, нагадвае сытуацыю 20-30-х гадоў, калі арганізоўваліся калгасы: аб'ядноўваюцца бедныя людзі і імкнуцца штосьці зрабіць. Асабліва сёньня, ва ўмовах развалу, па-сапраўднаму праводзіць прыватызацыю немагчыма"; "сам ваўчар - яшчэ не ўласнасьць, а толькі права на яе атрыманьне" і "сам па сабе чэк - каштоўная папера, але ён і застанецца проста паперай:"жывых" грошай прадпрыемства яна не нясе. У выніку выходзіць нейкі нігілістычны нонсенс. З аднаго боку - важнае мэрапрыемства трэба праводзіць, а з другога - і цяжка, і стратна."

Як бачна, нават людзі, якія непасрэдна займаюцца правядзеньнем прыватызацыі, ня маюць упэўненасьці, што ад гэтага будзе якаясьці карысьць. Беларусь дагэтуль ня мае вызначанай зьнешняй і ўнутранай палітыкі. Няма класу сярэдніх уласьнікаў, на які ўскладаюцца вялікія надзеі ў пераводзе эканомікі на рынкавыя рэйкі. Народ зьбяднеў і ня мае грошай, каб набыць акцыі якога-небудзь прадпрыемства ды й ўсталягічна да гэтага не гатовы. А заходнія інвэстары не жадаюць укладаць грошы ў беларускую эканоміку: няма прававой базы, якая б задавальняла іх. Ды і куды ўкладаць гэтыя інвэстыцыі, калі для раздзяржаўленьня прапануюцца ў асноўным стратныя альбо ня вельмі прыбытковыя прадпрыемствы. І галоўнае - не прынятыя ўсе неабходныя для правядзеньня прыватызацыі нарматыўныя акты.

Зразумела, што свае прыватызацыйныя чэкі людзі ўсё-ткі абмяняюць на акцыі таго ці іншага прадпрыемства. Але каб прадпрыемства змагло ўдасканаліць вытворчасьць, павысіць канкурэнтаздольнасьць прадукцыі, патрэбны грошы. Ні чэкі, ні акцыі іх не дадуць. Адкуль жа яны зьявяцца? Адкуль возьмуцца сродкі на выплату дэвідэнтаў па акцыях, калі грошай не хапае нават на заработную плату, набыцьцё сыравіны й энэрганосьбітаў?

Іншая справа, калі б менавіта ўсенародная прыватызацыя пачыналася 2-3 гады таму, калі эканоміка яшчэ даволі цьвёрда стаяла на нагах і калі ў людзей былі грошы. Іншая справа, калі б калектыў ці адна асоба выкупілі прадпрыемства за "жывыя" грошы, яно стала незалежным ад адміністрацыйнага дыктату міністэрстваў. Тады б можна было спадзявацца на станоўчыя вынікі.

Дагэтуль ніхто, зразумела, не растлумачыў, у чым тая рухаючая сіла прыватызацыі, якая перавядзе нашу эканоміку на рынкавыя рэйкі, што вымусіць кіраўнікоў прадпрыемстваў праявіць ініцыятыву. Такое ўражаньне, быццам уладным няма чаго сказаць наконт гэтага. А можа, наўмысна не дагаворваюць, што яны вырашылі ў чарговы раз падмануць народ, прыкрыўшы свае цёмныя справы, зьвязаныя з "прыхватызацыяй", чэкавай прыватызацыяй.

Беларусь сёньня паўтарае ўчарашнія дзеяньні Расеі. Там чэкавая прыватызацыя ў асноўным скончылася. Але ж спад вытворчасьці па-ранейшаму працягваецца. Узровень вытворчасьці ня толькі ня ўзрос у першым квартале у параўнаньні з адпаведным пэрыядам мінулага года, але й зьнізіўся. Няўжо хтосьці думае, што ў нас адбудзецца адваротнае?

Цяжка зразумець, навошта тады вымушаюць людзей пісаць заявы, стаяць у чэргах для атрыманьня розных даведак і кансультацый, марнаваць час і грошы на справу, якая нічога не вартая.

**С.РЭЎКА.**

## УРАД УЗЯЎ КРЭДЫТ НА ПАЎТРЫЛЬЁНА

Прэзідыум Вярхоўнага Савета на сваім паседжаньні прыняў пастанову, згодна якой Нацыянальны Банк Беларусі павінен вылучыць у траўні й чэрвені Савету Міністраў крэдыты на 50 мільярдаў рублёў. Акрамя таго, камэрцыйным банкам рэкамэндавана выдаткаваць ураду вялікія крэдыты: у траўні - на суму 250 мільярдаў, у чэрвені - на 150 мільярдаў. На прэс-канфэрэнцыі старшыня праўленьня Нацыянальнага Банка С.Багданкевіч, камэнтуючы гэтае рашэньне, згадаў, што "бюджэтнікам неабходна плаціць зарплату, яны не вінаватыя, што бюджэт пусты". Тым самым спадар Багданкевіч практычна вызначыў мэту выдаткаваньня крэдыту, які, на думку ўраду, дапаможа трымаць сытуацыю ў краіне пад кантролем.

**СІМ**

# 9,5 МІЛЬЯРДА ЗА ТРЫ ГАДЗІНЫ

**У Горадні адбыўся другі адкрыты аукцыён па продажу й перадачы ў арэнду (на 10 гадоў) 17 аб'ектаў камунальнай уласнасьці.**

**На цікавае відовішча, акрамя ўдзельнікаў і арганізатараў, прыйшло каля сотні гледачоў: хто проста паназіраць за ходам падзей, хто паглядзець і пралічыць свае магчымасьці ўдзелу ў наступных мэрапрыемствах, зьвязаных з прыватызацыяй.**

Як ня дзіўна, самы дарагі з выстаўленых аб'ектаў - крама, што перабудоўваецца па вуліцы Горкага (пры пачатковай цане 675,2 мільёна рублёў) - быў хутка прададзены ўсяго за 800 мільёнаў. Другі па велічыне пачатковай цаны (291,8 мільёна) - недабудаваная сталоўка, што на бульвары 60 год Кастрычніка, - быў набыты ва ўласнасьць адным з двух прэтэндэнтаў за 370 міл. Напэўна, так здарылася таму, што каб давесьці будынкі да ладу, новым уладальнікам трэба ўкласьці шмат сродкаў. Калі яны акупяцца - цяжка сказаць, акрамя таго, продаж памяшканьняў ажыцьцяўляўся з умоваю захаваньня іх профілю на 5 год.

Аукцыён быў багаты на сюрпрызы. Калі на папярэднім пачатковая цана павялічвалася ў 2-4 разы, то на гэтым яна ўзрастала ў 7-200 разоў. І гэта хутчэй за ўсё таму, што новым уладальнікам далі больш правоў, чым абавязкаў, паставілі менш умоў. Асноўнае - мець грошы.

На мінулым аукцыёне пасьля набыцьця трохпавярховага будынка па вуліцы Леніна ўладальнік павінен быў за свой кошт адсяліць сем'і, што жывуць там. Таму на яго ніхто ў той час не пажадаў прэтэндаваць. А ўзяў на сябе праблему адсяленьня выканкам - і справа пайшла. Дом быў прададзены за 1,8 мільярда рублёў, што амаль у 18 разоў болей за папярэдне запланаваную цану. Знайшлі новых гаспадароў і іншыя трохпавярховыя будынкі, якія прадаваліся ва ўласнасьць з умовай захаваньня іх гістарычнага характару. Так, памяшканьні па вуліцы Восьмага сакавіка й Найдуса былі набытыя за 500 і 280 мільёнаў рублёў (пачатковая цана 72,6 і 37,2 мільёна адпаведна). Крама, што знаходзіцца на вуліцы Серафімовіча, была прададзена ва ўласнасьць за 700 мільёнаў (пачатковая цана - 67,4 мільёна рублёў).

У параўнаньні з мінулым аукцыёнам для прэтэндэнтаў на кватэры не было такога абмежаваньня, як неабходнасьць стаяць у чарзе на атрыманьне жыльля. Галоўнае - быць жыхаром Беларусі, стала пражываць у Горадні. Нездарма за кожную з чатырох кватэр змагаліся звыш 10 чалавек, і кожная з іх пайшла з малатка па 380-460 мільёнаў, што ў чатыры разы вышэй за стартавую цану (на першым аукцыёне - у два).

Сапраўдная барацьба разгарнулася за права арэнды кавярні "Чырвоная Шапачка" і двух памяшканьняў (адно - пад швэйнае атэлье) па вуліцы Брыкеля. Новыя гаспадары атрымалі яго, заплаціўшы сумы прыкладна ў 20, 50 і 200(!) разоў вышэйшыя за пачатковыя (53,6; 1,96; 10,02 мільёна рублёў адпаведна).

Былі прададзены ва ўласнасьць за 36 мільёнаў (стартавая цана - 27,8 мільёна) двухпавярховы будынак па вуліцы Літаўскога й права арэнды памяшканьня па вуліцы Горкага за 12 мільёнаў рублёў (8,3 мільёна).

Ніводны чалавек не падаў заяўкі для ўдзелу ў аукцыёне на права арэнды памяшканьня па вуліцы Пестрака й набыцьцё праэктна-каштарыснай дакумэнтацыі кавярні "Бістро". На апошнюю, хутчэй за ўсё, ніхто не паклаў вока таму, што каб пабудаваць будынак, трэба ўкласьці не адзін мільярд рублёў.

Тым ня менш, аукцыён атрымаўся. Цяжка было не заўважыць задавальненьня на тварах яго арганізатараў, бо ён праўзышоў усе іх чаканьні, прынесшы ў бюджэт горада каля 10 мільярдаў рублёў, тады як разьлічвалі дзесьці на тры.

**А.ДУК.**



## ДА ПЕРШАЙ СЬМЕРЦІ МЫ ДАЖЫВЕМ УСЕ

Васіль Нікадзімавіч Стасюкевіч нарадзіўся ў вёсцы Якубавічы Шчучынскага раёна ў звычайнай сялянскай сям'і. Рана спазнаў галечу й працу хлебароба на бацькоўскай зямлі, а калі заканчваліся работы ў полі, йшоў працаваць дрэвасекам у панскі лес, каб памагчы сям'і зьвесьці канцы з канцамі. Вось з тых памятных часоў Васіль Нікадзімавіч і зьбярог да старасьці ўсё сялянскае, хаця многія гады яго вытраўлялі з душы. Падчас вайны быў у партызанах, затым - у калгасе "Скідзельскі" на жывёлагадоўчай ферме карміў жывёлу. Цяпер дома, калі-нікалі, як палепшае здароўе, бярэцца плесьці кошыкі. Але ж яно падарвана цяжкай працай і кантузіяй, якую атрымаў ва Ўсходняй Прусіі. Узнагароджаны многімі ордэнамі й мэдалямі. Кошыкі пляце для дзяцей і ўнукаў, родных і блізкіх. Яны, як бачна, прыгожыя й моцныя. А нажыў гэтыя навыкі ў дзяцінстве, калі пасьвіў вясковых кароў.

- Сяжу за працай і думаю, - гаворыць Васіль Нікадзімавіч, - ці патрэбны быў на фронце патрыятызм? Вось у мяне быў такі выпадак. Ад кантузіі я страціў прытомнасьць. Калі прыйшоў у сябе, хацелі адправіць у мэдсанбат, але я адмовіўся, хацэў хутчэй у бой. Калі б пайшоў у мэдсанбат, была б і адпаведная даведка, а так яе няма. І зараз я не інвалід вайны, а толькі працы, і, як сьлед, - пэнсію атрымліваю значна ніжэйшую. Вось табе й праявіў патрыятызм, ад якога цярплю матэрыяльна. Але нічога, да першай сьмерці дажыву.

**НА ЗДЫМКУ: В.Н.Стасюкевіч за працай.**
**Фатаграфаваў У.БАРЫСАЎ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





# «ШЛЯХ ДА ЎЗАЕМНАСЬЦІ»

У суботу ў Новым замку ў Горадні адбылася міжнародная канфэрэнцыя "Шлях да ўзаемнасьці". Яе арганізавалі й правялі ўпраўленьне культуры аблвыканкама, Саюз палякаў Беларусі й вабласное аддзяленьне Беларускага фонду культуры з удзелам Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку.

Гаворка на ёй вялася аб узаемасувязях суседніх народаў, праблемах нацыянальных меншасьцяў, аб неабходнасьці далейшага вывучэньня гістарычнай праўды ў адносінах Беларусі й Польшчы, развіцьці культуры.

Як зазначыў Ян Сычэўскі, старшыня Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку, патрэбна спрыяць аб'ектывізацыі працэсаў і рабіць гэта праўдзіва, з маральнай адказнасьцю. З яго слоў, беларусы ў Польшчы маюць доказы, што дзяржава клапоціцца аб іх, аднак ёсьць і праявы, якія не суцяшаюць. Часам можна пачуць: "Польшча - для палякаў. Беларусам тут ня месца." Альбо праз сродкі масавай інфармацыі каталіцкія сьвятары заяўляюць, што беларусаў на Беласточчыну прывёз цар і г.д.

Застаўляюць хвалявацца й адносіны міністэрства культуры Польшчы, якое на культурныя патрэбы беларускае нацыянальнае меншасьці (зараз у Польшчы жыве 350 тыс. беларусаў) выдзяліла грошай у пяць разоў меней, чым іншым. На сёньняшні дзень толькі ў 42 школах выкладаецца беларуская мова, у той час як раней гэта рабілася ў 170 школах.

Аднак, нягледзячы на ўсялякія праблемы, як зазначыў Ян Сычэўскі, цешыць тое, што ёсьць магчымасьць разам зьбірацца й гаварыць адзін аднаму аб сваіх клопатах. І ён вельмі ўпэўнены, што такія сустрэчы на карысьць.

Цікавым і зьместоўным быў выступ Вітаўта Кіпеля з Амэрыкі, які распавядаў аб дачыненьнях беларусаў і палякаў у ЗША. Ён зазначыў, што найбольш плённае супрацоўніцтва зараз адбываецца на навуковай ніве.

Падчас канфэрэнцыі адчувалася шчырая дабразычлівая атмасфэра. І адзін, і другі бок разумеюць, што жыць супольна трэба й надалей і каб ад гэтага было добра ўсім.

У канфэрэнцыі прынялі ўдзел пасол Польшчы ў Беларусі Э.Смулэк, прафэсар А.Мальдзіс з Менску.

**М.КАРНЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі канфэрэнцыі (зьлева-направа): С.Габрусевіч, А.Мальдзіс, А.Пяткевіч, В.Кіпель, А.Майсяёнак - усе прафэсары. Фатаграфаваў А.УЛАДАСЕВІЧ.**

# КАЛІ Ў НАС ГЭТЫЯ ВЫБАРЫ ЎКРАДУЦЬ, НІХТО НАВАТ НЕ ЎМЯШАЕЦЦА...

30 траўня ў Горадні адбылася міжнародная навукова-практычная канфэрэнцыя "Выбары і прынцыпы дэмакратыі", якую ладзілі Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" сумесна з Інстытутам Крыбла фонда Свабоднага кангрэса ЗША.

Падчас канфэрэнцыі выступаў толькі адзін дакладчык (калі можна так сказаць) - прадстаўнік Інстытута Крыбла Джон Экснішэс з амэрыканскага горада Новы Арлеан.

Тэма яго дакладу датычылася тэхнікі правядзеньня перадвыбарчай кампаніі. Бадай, галоўнае, што хацеў давесьці да ўсіх сабраўшыхся Джон Экснішэс - гэта тое, што ўсё залежыць толькі ад нас саміх, грамадзян Беларусі. Ад нашае арганізацыі працы, розуму й г.д. І ніхто, у тым ліку й Захад, не дапаможа нам правесьці тут выбары й будаваць дабрабыт у краіне. Ён зазначыў, што міжнародных назіральнікаў у Беларусь прыедзе хутчэй за ўсё няшмат. Больш таго, Джон Экснішэс, не тоячы, не адзін раз паўтараў, што Беларусь на Захадзе – дзяржава, практычна забытая. Яшчэ ён зьдзіўляўся цярплівасьці нашага народа, аднак канстатаваў, што нават і такому цярпеньню настане канец, калі мы будзем тапталіся на месцы. І тады надзея можа быць толькі на тое, калі ва ўсіх нашых суседзяў - у Расеі, Украіне, Прыбалтыцы - па-сапраўднаму пераможа дэмакратыя.

На пытаньне, каго з кандыдатаў на прэзідэнцкі пост у Беларусі падтрымлівае Інстытут Крыбла, Джон Экснішэс адказаў, што яны не падтрымліваюць каго-небудзь канкрэтна, а толькі дэмакратычныя рухі.

І яшчэ адна думка амэрыканца, які мае адукацыю геолага й юрыста і дваццаць гадоў займаецца палітыкай. З усіх трох рэсурсаў - людзі, час, грошы - у беларускіх дэмакратаў на сёньняшні дзень ёсьць толькі першае, нават часу практычна не засталося. Усе спадзяваньні толькі на тое, што мы самі зробім усё дзеля таго, каб маглі людзьмі звацца...

**М.КАРНЕВІЧ.**

# ВЫМУШАНАЕ ВЫНАХОДНІЦТВА

Павышэньне пасажырскіх тарыфаў на чыгуначны транспарт, які едзе за межы Беларусі, сапсавала настрой многім гарадзенцам. Але ж некаторыя не разгубіліся, і пачалі праяўляць вынаходлівасьць. Каб зэканоміць грошы, яны даяжджаюць да Воршы па параўнальна невысокай цане (білеты на цягнікі да беларускіх станцый не падаражэлі), і там набываюць праяздныя дакументы да патрэбнага пункта заходняй часткі Расеі.

**А.Д.**

Рыгор КОПАЦЬ

## ХАЧУ ПРЭЗІДЭНТА

Рана Ванечка ўстаў,  
Абмачыўся да ўшчэнту.  
Мама - "цыцы", а ён:  
"Я хацу прэзідэнта!"

Тата водачку п'е,  
Стаў ужо імпатэнтам.  
Ды яго ў лоб не б'е.  
Хоча ён прэзідэнта.

Сын без працы сядзіць  
Не бяруць без прэзэнта.  
Дзе ж той хлеб зарабіць?  
"Дайце хоць прэзідэнта!"

Ганьдзя з печы ўзышла  
Ўнесьці дроўцаў бярэмца  
Цяжка доля найшла.  
"Кепска без прэзідэнта."

У печы блін падгарэў,  
Бо патэльня без шмальца.  
"Прэзідэнта ўпрашу,  
Мо дасьць ён кусок сальца."

Зажурыўся калгас,  
Дзе ж узяць "зайца", ці цэнта?  
"У банку пуста для вас..."  
"Даць сюды прэзідэнта!"

Разваліўся завод,  
Ян - у падпаскі да дзеда.  
"Малачко тут, як мёд.  
Нам бы йшчэ прэзідэнта."

Сёмка ўзяткі бярэ,  
Бавіць службу за гэта.  
Як прыпарку ў труне  
Хоча ён прэзідэнта.

На таўкучку пайшоў:  
"Шнікер! Кава! Гарэлка!.."  
Шахер-махер-мільён.  
Гэта й без прэзідэнта.

Зяця ў банк падсадзіў  
Стаў ён акцыянэрам,  
У крэсьлі мякькім сядзіць.  
"Добра нам, дахалеры..."

Дык жыві, беларус,  
Пагаджайся на рэнту.  
Цёмен сам. Белы вус.  
Выбірай прэзідэнта.

# ГЭТА САПРАЎДНАЯ ДЫВЕРСІЯ

Як заўважыў пасьля дэбатаў у інтэрв'ю "Общей газете" К.Затулін, старшыня Камітэту Дзярждумы па справах СНД і сувязям з суайчыньнікамі, "мы сваімі дзеяньнямі завялі беларусаў у кут. Палітычна - таму, што сваімі размовамі аб аб'яднаньні грашовых сыстэм выклікалі ўздым прарасейскіх настрояў на Беларусі, а сёньня, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі, фактычна паставілі посьпех вядучага кандыдата на пост прэзідэнта ў залежнасьць ад таго, пойдзем мы на подпіс пагадненьня ці не. Фінансава - таму, што спачатку, парываючыся да аб'яднаньня, а затым шляхам зацягваньня перамоў, правялі сапраўдную дыверсію супраць беларускай эканомікі."

Згадваючы аб коўцы разыходжаньня Расеі з Беларусьсю, пан Затулін заўважыў так: "Для размеркаваньня палітычных сілаў у самой Беларусі гэта адбілася адмоўна й паспрыяла росту тых сілаў, што бачаць Беларусь незалежнай. Магчымасьць пройгрышу на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах бакоўцаў за інтэграцыю з Расеяй будзе азначаць для Расеі пройгрыш. У такім выпадку расейцам давядзецца ладзіць мяжу з Беларусьсю. Да таго ж, станцыя супрацьракэтнай абароны першаснага папярэджаньня можа адысьці з-пад расейскай юрысдыкцыі.

У дасье "Общей газеты" даводзіцца лічба 600 мільярдаў рублёў на поўнае абсталяваньне мяжы. Да 400 мільярдаў рублёў - на стварэньне мытна-кантрольнай службы.

Зараз агульныя расходы, якія нясе Беларусь за ўтрыманьне на сваёй тэрыторы расейскіх войскаў стратэгічнага прызначэньня, налічвае 1,9 мільярда ў год.

**СІМ.**

## СЬЦЕРАЖЫЦЕСЯ, ВАС ЖАДАЮЦЬ ПАДМАНУЦЬ

Як стала вядома рэдакцыі "Пагоні", адзін непаўналетні гарадзенец, скарыстоўваючы разнастайныя махлярскія выкрунтасы, ўваходзіць у давер да замежных камэрсантаў. Потым, скарыстаўшы зручны момант, крадзе ў тых аўдыя- й відэаапаратуру, тэлефоны, скрынкі з харчам і многае іншае. Ахвярамі гарадзенца сталі нямецкі камэрсант Раабэ, якога непаўналетні хітрун абакраў на 7 тысячаў дойчмарак, і Цэнтр Нямецкай культуры ў Горадні, які не далічыўся рэчаў на 500 даляраў ЗША.

Міліцыянты выкрылі афэрыста падчас рэалізацыі ім сваіх "здабыткаў".

На жаль, праз трое сутак ён апынуўся на волі. Падстава: крымінальны кодэкс ня мае артыкула, дзе б згадвалася, што за пакражы ў буйных памерах прыцягваюцца да адказнасьці й непаўналетнія.

## ПАДЗЕЯ Ў СМАРГОНІ

На апошняй сэсіі Смаргонскага гарадзкога Савета з крытыкай у адрас генэральнага дырэктара вытворчага аб'яднаньня "Смаргонскі завод аптычнага станкабудаваньня" Сяргея Пеліха выступілі народныя дэпутаты. Яго абвінавацілі ў тым, што кацельня вытворчага аб'яднаньня не забясьпечыла ў мінулую зіму цалкам значную частку горада.

На сэсіі было прапанавана адхіліць С.Пеліха ад займаемай пасады, але пры галасаваньні пытаньне не прайшло. Адразу пасьля сэсіі народных дэпутатаў Я.Лявіцкага, Р.Лянкевіч, У Давыдчыка й Кашкевіча, якія працуюць на гэтым прадпрыемстве, выключылі з савета вытворчага аб'яднаньня. Некаторыя з іх былі занесеныя ў сьпіс падлягаючых звальненьню па скарачэньню штатаў.

**М.ЖЫЛЕЎСКАЯ.**

## «КАРЫТАС» – ГЭТА ДАБРАЧЫННАСЬЦЬ

Пры каталіцкай эпархіі Горадні створана дабрачынная грамадзкая арганізацыя "Карытас". Пра мэты новай арганізацыі распавядае карэспандэнту "Пагоні" ксёндз Анатоль Маркоўскі.

"Наша арганізацыя заснавана з дапамогай Нацыянальнай канфэрэнцыі біскупаў Амэрыкі. Канфэрэнцыя аказвае разнастайную дапамогу касьцёлу ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. "Карытас" мае на мэце найперш дапамагаць бедным, хворым, нямоглым.

Формы дапамогі самыя разнастайныя: ад маральнай падтрымкі да зарганізаваньня ў Горадні дабрачынных сталовак і выдаткаваньня найбольш бедным матэрыяльнай дапамогі."

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## ЛІСТ З ВАТЫКАНУ

На адрас Гарадзенскай каталіцкай эпархіі дайшоў ліст з Ватыкану, які падпісаны Папам Рымскім Іаанам Паўлам II. З ліста вынікае, што Сьвяты касьцёл пастанавіў лічыць Прыснадзеву Марыю заступніцай зямлі беларускай. Таксама абаронцамі Беларусі будуць Сьвяты Казімір і Сьвяты Максімільян - Марыя Кольбэ.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## АДНЫМ ПАСТЫРАМ БОЛЕЙ

Архібіскуп Гарадзенскай каталіцкай эпархіі А.Кашкевіч рукапалажыў і высьвяціў 28 траўня 1994 года на сьвятара спадара К.Жывалеўскага. Новы ксёндз будзе мець прыход у вёсцы Макараўцы.

**(АІТ)**

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







СУМЕЖЖА

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Паводле дадзеных дзяржаўнай камісіі, якая правяла аналіз дзейнасьці школаў нацыянальных меншасьцяў у 1992-93 гадах, у Летуве ў 237 агульнаадукацыйных школах заняткі праводзіліся на расейскай, польскай і жыдоўскай мовах (у 83 - на расейскай, 46 - на польскай, 1 - жыдоўскай, 107 - на дзьвюх або трох мовах).

У верасьні 1992 года ў Вільні адчыніліся першыя беларускія клясы, а ў Клайпэдзе - школа з нямецкай мовай навучаньня.

Прагназуецца, што ў 1995-96 г.г. у Летуве на польскай мове будзе ўдвая больш навучэнцаў, чым іх было напачатку дзесяцігоддзя. У 1992-93 г.г. пачалася рэформа структуры расейскіх школ, згодна з якой гэтыя школы збліжающца да 12-гадовага навучэньня. На сёньняшні дзень колькасьць вучняў у іх зьмяншаецца. У Вільні, магчыма, будзе створана й беларуская школа.

* * *

Старэйшы камісар Галоўнага камісарыяту паліцыі Вільні Рамуальдас Вянскявічус сказаў, што, пачынаючы ад 1990 года, лічба зафіксаваных у горадзе злачынстваў узрасла ад 9087 да 11042. У той жа час дзесяць гадоў таму назад было зарэгістравана толькі 3221 злачынства. Адначасова падкрэсьліваецца, што ўжо каторы год агульная лічба злачынстваў у сталіцы не расьце. Аднак няма падстаў для радасьці. . За чатыры гады незалежнасьці ня толькі значна вырасла колькасьць цяжкіх злачынстваў, але й іх удзельная вага. У 1990 годзе толькі кожнае дзесятае злачынства было цяжкім, у 1991 - кожнае восьмае, а цяпер - кожнае сёмае й нават шостае.

На думку камісара, лічба цяжкіх злачынстваў у гэтым годзе вырасьце на 40-50 працэнтаў. Каб пазьбегнуць гэтага, трэба прымаць кардынальныя меры. Касметычныя захады ўжо не дапамогуць.

* * *

"У незалежнай Летуве няма такога паняцьця, як інваліды вайны. На сёньняшні дзень усе інваліды ў Летуве роўныя. Такім чынам, той, хто стаў інвалідам на вайне ці ў выніку злоўжываньня алкаголю, цяпер у Летуве роўныя. Летува бадай што адзіная дзяржава ў Эўропе, дзе лекар або настаўнік, маючыя 50 гадоў стажу працы, і п'яніца, які ў сваім жыцьці зьмяніў дзесяткі месцаў працы, атрымоўваюць амаль аднолькавую пэнсію. Такой ураўнілаўкай Летува можа ганарыцца нават перад былым савецкім ладам," – так адказаў на пытаньне карэспандэнту газэты "Циеса" служачы ўрадавага апарату (газэта не называе прозьвішча, мяркуючы, што няхай жыве спакойна): "Ці варта было адбіраць у інвалідаў вайны тыя апошнія мізэрныя ільготы, як бясплатны праезд у грамадзкім транспарце?"

* * *

Як паведаміла газэта "Рэспубліка", з цікавай прапановай выступіў член Сэйму М.Мядзьведзеў. Камэнтуючы тэндэнцыю судоў выпускаць на свабоду бандытаў, а таксама бездапаможнасьць ураду ў кантраляваньні сытуацыі ў краіне, ён прапанаваў як мага хутчэй скончыць будаўніцтва стадыёну, каб менавіта там, за прыкладам Чылі, зьмясьціць незадаволеных, калі да ўлады дойдзе больш рашучы ўрад.

**Уладзіслаў СТРУМІЛА.**

# ЧАМУ ЗЛАЧЫННЫ СЬВЕТ МАЦНЕЙ ПРАВААХОЎНЫХ СТРУКТУРАЎ?

Сродкі масавай інфармацыі даволі апэратыўна й шырока асьвятляюць крымінагэнную сытуацыю ў Летуве. Яна сапраўды жахлівая й пакуль што мае тэндэнцыю да пагаршэньня, што гаворыць ня толькі пра слабасьць дзяржаўных праваахоўных структураў - паліцыі, пракуратуры, судоў, але й пра хваробу грамадзтва, яго нездольнасьць супрацьстаяць злу й перамагчы яго.

У праваахоўных структурах працуюць у большасьці сумленныя людзі, якія выконваюць свой абавязак.

З другога боку, яны, як і ўсё грамадзтва, схільныя да ўзьдзеяньня ідэялогіі "дзікага капіталізму" з яго пастулатам: перш за ўсё клапаціся аб сабе; патрэбны чалавек - гэта той, у каго ёсьць грошы, бо ўсё прадаецца й купляецца; ня трэба плаціць падаткі дзяржаве, бо яно варожае да чалавека й г.д.

Такая ідэялогія, адсутнасьць дысцыпліны, пачуцьця адказнасьці й прафэсіяналізму даюць магчымасьць пранырам з злачыннага сьвету абзавесьціся заступнікамі й інфарматарамі ў розных зьвёнах праваахоўнай сістэмы. Нярэдка злачынцы даведваюцца пра тое, што супраць іх рыхтуецца апэрацыя, загадзя.

Між тым, прадстаўнікі праваахоўных структураў ня могуць перашкодзіць задумам злачынцаў, ліквідаваць іх верхаводаў і заступнікаў. Некаторыя спэцыялісты сьцьвярджаюць, што недастаткова сродкаў выдзяляецца для работы з агэнтурай, у тым ліку на арэнду канспіратыўных кватэр, удзел у аукцыёнах і іншых мэрапрыемствах, падчас якіх можна было б трапіць у глыбіні злачыннага сьвету, узарваць яго знутры. Паліцыя й іншыя праваахоўныя ворганы пакутуюць на фактаманію, адсутнасьць стратэгічнага мысьленьня й канкрэтнай работы.

Няма кантролю за асобнымі ведамствамі правапарадку, яны нікому не падпарадкаваныя. У такой сытуацыі вырашаюць усё сумленнасьць і прыстойнасьць. Аднак калі прыстойныя людзі гуляюць па правілах, гэта значыць, прытрымліваюцца законаў, то ў злачыннага сьвету свае правілы. У іх няма месца такім паняцьцям, як прыстойнасьць, гонар, сумленьне, чалавечнасьць, спагада.

Таму, каб перамагчы злачынны сьвет, неабходна стварыць спэцыяльныя цэнтралізаваныя "службы імунітэту" й даць ім права ачышчаць праваахоўныя структуры ад карумпаваных элементаў.

Спэцыялісты ведаюць, што злачынцам служаць і прафэсіяналы, напрыклад, адвакаты, якія атрымліваюць велізарныя сумы й пераконваюць, што яны абараняюць чалавека. Канешне, злачынца - таксама чалавек. Аднак калі вядомых рэкецірам абараняе сігнатар акта незалежнасьці, а фінансавых махінатараў - былы вядомы дзяржаўны дзеяч, які нярэдка наведвае Сэйм, пачынаеш разумець, якая цяжкая доля ў прынцыповых паліцыянтаў, пракурораў, сьледчых. Многія радавыя работнікі праваахоўных ворганаў ня маюць ні аўтамабіляў, ні ўласных дамоў, хтосьці туліцца ў інтэрнатах. У той час на службу злачынцам кінуты вялізныя сумы грошай, і розум, і прыстойнасьць. Ужо такія яны - былі савецкімі актывістамі, сталі патрыётамі-капіталістамі!

У нас не наладжаны сувязі праваахоўных ворганаў з адпаведнымі структурамі іншых рэгіёнаў, нават краін Балтыі й Калінінградзкай вобласьці.

Ды што ўжо казаць пра сувязі з суседзямі, калі нават у Летуве няма каардынацыі дзейнаньяў між ведамствамі на вышэйшым узроўні. Гэта можна сказаць, у першую чаргу, пра адносіны праваахоўных ведамстваў з мытнай і памежнай службамі. Работнікам мытнай службы нярэдка не хапае дзяржаўнасьці, маштабнасьці мысьленьня. Між тым, злачынцы на мытнях і на мяжы маюць сваіх людзей, якія забясьпечваюць бяспераешкоднае перасячэньне мяжы й правоз тавараў.

Міжведамасным каардыяваньнем арганізацыі барацьбы з злачынным сьветам павінна займацца спэцыяльная дзяржаўная структура, бо тая, створаная пры кіраўніцтве Сэйма, на жаль, сябе не апраўдвае.

Трэба падумаць, ці не час Летуве, як гэта робіцца ў многіх дэмакратычных дзяржавах, перайсьці да палітычнага кіраваньня МУС. Ёсьць, канешне, свае перавагі ў тым, што такое важнае ведамства ўзначальвае "свой чалавек", але на яго цісьне цяжар кар'еры, вузкаведамаснае мысьленьне, ён абмежаваны калегіяльнымі сувязямі, што ўскладае прыняцьце радыкальных рашэньняў.

Таму перамены ў паліцыі адбываюцца марудна, з цяжкасьцямі. Асабліва дрэннае становішча ў паліцыі самаўпраўленьняў, дзе не хапае элементарнай дысцыпліны й пачуцьця доўгу.

Памянёныя прычыны - ня толькі ад слабасьці ўладаў. Гэта праблема грамадзтва, якое атрымала свабоду, але не пазбавілася савецкага мэнталітэту, хамства, духоўнай няпаўнацэннасьці навязаўленых нувурышаў.

**LR**

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Мэтай новай праграмы, якая называецца "Стратэгія для Польшчы", зьяўляецца падтрымка правінцыйных тэндэнцый у гаспадарцы - зазначыў віцэ-прэм'ер і міністр фінансаў Г.Калодка. Дзьве галоўныя прадпасылкі праграмы, на яго думку, - гэта павелічэньне экспартнай вытворчасьці й тых інвэстыцый, якія створаць новыя месцы працы.

Праграма прадугледжвае павелічэньне выдаткаў на навуку, культуру, адукацыю, ахову здароўя. Віцэ-прэм'ер падкрэсьліў, што праграма зьмяшчае ў сабе прынцыпы эканомікі й супадае са спадзяваньнямі розных слаёў насельніцтва.

* * *

Кожны паляк, які жыве за мяжой, павінен атрымаць польскае грамадзянства й права на пасяленьне ў Польшчы, - так мяркуюць 4/5 рэспандэнтаў сацыялагічнай службы ЦБОС. Кожны дзевяты рэспандэнт супраціцьстаіць гэтаму. Рэпатрыяцыю палякаў з Казахстана адабраюць 3/4 палякаў.

* * *

Апошняя сэсія гарадзкой Рады ў Беластоку прыняла справаздачу з дзейнасьці самаўрадавых ворганаў у 1990-94 г.г. Рада ўхваліла заклік да дзяржаўных уладаў: забясьпечыць палякам з Казахстану годнае вяртаньне на Радзіму. Беластоцкі самаўрад абяцаў аказаць дапамогу ў гэтым. Відаць, радныя мелі на ўвазе Ўсходнюю сьцяну (так называюць Усходнюю Беласточчыну), якая практычна пустуе.

* * *

Ваяводзкая Рада прафсаюза "Салідарнасьць" у Беластоку намервaецца запрасіць на Беласточчыну 40-50 палякаў з Казахстану. Запрошаным на тры месяцы мужчынам будуць створаныя магчымасьці пазнаёміцца з умовамі гаспадараньня сялян, мовай і культурай.

* * *

Пятнаццатае агульнапольскае паломніцтва праваслаўнай моладзі на сьвятую гару Грабарку згуртавала паўтары тысячы вернікаў з усяе Польшчы, а таксама прадстаўнікоў праваслаўнай моладзі з Беларусі, Чэхіі, Летувы, Партугаліі, Расеі, Румыніі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі й ЗША.

* * *

"Мота-94" - так называўся міжнародны кірмаш, які адбыўся ў Беластоку. Удзел у ім прынялі 50 фірмаў з усяе Польшчы. Мэта кірмашу - рэкляма фірмаў, якія дзейнічаюць у Польшчы, а таксама на рынках Беларусі й Прыбалтыкі.

У ходзе кірмашу былі праведзеныя канкрэтныя перамовы з беларускай дэлегацыяй, якую ўзначальваў прэзідэнт беларускіх прадпрымальнікаў У.Карагін. Беларускі бок цікавілі, між іншым, запчасткі для аўтобусаў "Ікарус" і пашырэньне супрацоўніцтва з фірмай "Пронар".

* * *

"Czasopis" - інфармацыйна-культурны штомесячнік беларусаў Усходняй Беласточчыны - атрымаў узнагароду II ступені ў трэцім конкурсе для мясцовага друку, арганізаваным на карысьць дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе.

Сёлета ўдзел у конкурсе прынялі 300 газэт, і адным з крытэрыяў ацэнкі было іх стаўленьне да пытаньняў меншасьці. Конкурсная камісія вылучыла 76 лаўрэатаў.

**Па матэрыялах польскага друку.**

# ЭНЭРГАМОСТ ЛЕТУВА – ПОЛЬШЧА?

Лінія электраперадач, якая злучала б энэргетычную сістэму Летувы з Польшчай і аднáчасова з Захадам, патрэбна ўжо сёньня. "Аднак незразумела, ці патрэбна яна будзе праз дзесяцігоддзе", - піша "Эхо Литвы".

Магутнасьць крыніц летувіскай энэргасістэмы зараз намнога пераўзыходзіць патрэбы краіны. Як сказаў галоўны інжэнер Летувіскай дзяржаўнай энэргетычнай сістэмы (ЛДЭС) В.Пашкявічус, у мінулыя гады шмат электраэнэргіі прадавалася ў Беларусь (амаль 9 мільярдаў кілават/гадзін у год) і ў Калінінградзкую вобласьць (каля 2,5 мільярда кілават/гадзін). Аднак з-за эканамічнага крызісу патрэба энэргіі ў гэтых краінах, як і ў Летуве, зьнізілася. З другога боку, Беларусь і Калінінградзкая вобласьць хацябы й жадаюць карыстацца магутнасьцямі летувіскіх электрастанцый, не ў стане за гэта плаціць. Таму з другога паўгоддзя мінулага года ЛДЭС экспартуе электраэнэргію толькі ў Латвію.

Электраэнэргія ў Летуве танная, Захад быў бы зацікаўлены купляць яе лішкі, аднак у Летувы няма блізкіх шляхоў для перадачы энэргіі туды.

У 1992 годзе зьявілася думка аб падключэньні да Польшчы. Паколькі палякі падтрымалі ідэю, была створана сумесная рабочая група, якая скончыла работу ў пачатку гэтага года.

В.Пашкявічус растлумачыў, што за паўтары гады сумесныя намаганьні былі вывучаны тэхнічныя й эканамічныя магчымасьці некалькіх прапаноў. Выбар трапіў на адзін з іх, сутнасьць якога наступная. Польшча працягвае на сваёй тэрыторыі лінію на 400 кілавольт працягласьцю каля 220 кіламетраў ад мяжы з Летувіскай Рэспублікай. Летуве застаецца правесьці 120-кіламэтровую лінію ад гідраакумулюючай электрастанцыі ў Куонісе праз Алітус. Але ёй гэта каштавала б 30 мільёнаў даляраў ЗША. Аднак у Алітусе трэба пабудаваць падстанцыю для трансфармаваньня прынятага тут напружаньня 330 кілавольт у 400 кілавольт, якое выкарыстоўваецца на Захадзе. Будаўніцтва такой падстанцыі магутнасьцю 600 мегават каштуе каля 100 мільёнаў даляраў ЗША.

Як бачна, аб'яднаньне энэргасістэм Летувы й Польшчы каштавала б дорага. Гэтыя сродкі маглі б акупіцца за 7-10 год, калі б праз Польшчу пастаянна перадаваліся патокі энэргіі магутнасьцю 400-600 мегават. Таму, перш чым пачаць абодвум бакам будаўніцтва, трэба мець доўгатэрміновы контракт хаця б з адной дзяржавай Захаду, якая б гарантавала, што будзе набываць такую колькасьць энэргіі з 1994 года (Польшча ня зможа раней скончыць пракладку лініі па сваёй тэрыторыі). Гэта складана, бо цяжка знайсьці дзяржаву, якая б так далёка прадбачыла свае патрэбы й рынак. Яшчэ адно пытаньне, на якое таксама патрэбны адказ, гэта адносіны з традыцыйнымі імпарцёрамі летувіскай электраэнэргіі: Расеяй, Беларусьсю й Латвіяй. "Калі магутнасьць Ігналінскай АЭС не павялічыцца, і за нашу электраэнэргію ў будучым змогуць плаціць і Расея, і Беларусь, то ня вельмі й застанецца энэргіі для продажу на Захад", - кажа В.Пашкявічус.

**(Па матэрыялах літувіскіх газэт).**

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





## ФЭСТ КАТАЛІКОЎ У ГОРАДНІ

Каб усе жадаючыя вернікі-каталікі змаглі ўзяць удзел ва ўрачыстых сьвяткаваньнях у Горадні "Боскага цела", уладам давялося часова прыпыніць рух грамадзкага транспарту горада.

Як зазначыла верніца Яніна Жук:"Горадня з часоў панскай Польшчы Пілсудзкага такога ня бачыла."

**На здымку: фэст па вуліцах Горадні.**
**Фатаграфаваў В.УЛАДАСЕВІЧ.**

## СЬВЯТА БЕЛАРУСКАГА БУКВАРА

У дзіцячым садку N 42 ВА "Азот" пры актыўнай падтрымцы бацькоў вучні першага класа правялі Сьвята беларускага буквара.

Дзеткі чыталі вершы, казалі казкі, сьпявалі песьні. Дарослыя таксама спрабавалі сёе-тое прадэкламаваць на беларускай мове.

Сьвяты беларускага буквара й надалей будуць праводзіцца для тых, хто ўпершыню пачаў вывучаць беларускае слова.

**Г.КУТАСОВІЧ.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**За мінулы тыдзень на тэрыторыі вобласьці зьдзейсьнена 136 злачынстваў і адбылося 30 здарэньняў. У іх ліку 2 забойствы, 6 цялесных пашкоджаньняў, 2 згвалтаваньні, рабаўніцтва, 5 хуліганстваў, 37 крадзяжоў дзяржаўнай і 57 - асабістай маёмасьці грамадзян.**

**За гэты ж час 49 злачынстваў раскрыта. У 10 дарожных здарэньнях 16 чалавек паранена.**

**А вось зьвесткі аб стане злачыннасьці ў вобласьці за 5 месяцаў. Як і раней, працягваецца яе рост, які склаў 18,0%, у тым ліку наўмысныя забойствы "вырасьлі" амаль на 30,0%, разбоі - на 46,7, крадзяжы дзяржаўнай маёмасьці - на 8,0, а асабістай - на 38,9%.**

**У той жа час ёсьць і станоўчыя моманты. Так, прыкметна павялічылася раскрываемасьць злачынстваў, і зараз яна складае 79,9%, меней зьдзейсьнена цяжкіх цялесных пашкоджаньняў (29,2), згвалтаваньняў (47,2), а таксама рабаваньняў, хуліганстваў, крадзяжу транспарту, больш актыўна вялася барацьба з эканамічнай злачыннасьцю (22,6%).**

ГОРАДНЯ

Шэраг рэйдаў, праведзеных гарадзенскімі міліцыянтамі на прахадных прадпрыемстваў, далі добры плён. Толькі за адно "наведваньне" на прахадной мясакамбіната былі затрыманы двое рабочых, якія выносілі адпаведна па 5,9 і 2,6 кг мясапрадуктаў, а на гарбарным заводзе "не пашанцавала" двум работніцам, у якіх канфіскаваны тры скуры. (Цікава, а куды глядзіць адміністрацыя гэтых прадпрыемстваў?)

Тычыцца гэта й гандлёвых работнікаў, бо калі паназіралі некалькі хвілін за працай прадаўшчыцы крамы N 14 "Агароднiна" па вул.Дамброўскага, то высьветлілася, што тая толькі трох пакупнікоў аблічыла на 1130 рублёў. А колькі іх праходзіць за дзень...

Доўгі час супрацоўнікі крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РАУС не маглі натрапіць на сьлед зламысьніка, які краў у раёне электралічыльнікі. Цікава, што ахвярамі ў асноўным станавіліся жыхары дамоў па прашпэктах Касманаўтаў і 40-год Перамогі. Пасьля дзесятага крадзяжу адказ на пытаньне зьявіўся сам - яго прынесла ў дзяржаўную частку жанчына, якая паскардзілася, што яе сужыцель зусім страціў розум - прапівае хатнія рэчы й да таго ж крадзе ў дамах электралічыльнікі. У доказ яна паклала на стол перад дзяжурным міліцыянтам запчасткі ад іх.

Тады й высьветлілася, што злачынец не прытрымліваўся "воўчых" традыцый, бо краў там, дзе жыў, і там, дзе працаваў - за Нёманам і за "чыгункай".

***

У канцы працоўнага дня на рабочым месцы ў аддзяленьні Нацыянальнага банка па вул.Карбышава, 17 з табельнай зброі - пісталета Макарава - застрэліўся 56-гадовы інкасатар. Прычыны самагубства высьвятляюцца.

АСТРАВЕЦ

Ноччу з пятніцы на суботу з пашы каля в.Дрэвенікі скралі двух коней, якія належылі калгасу імя Мічурына.

БАЯРЫ (Гарадзенскі р-н)

Тое самае здарылася з двума коньмі, якія пасьвіліся ноччу каля гэтай вёскі й належылі мясцовай жыхарцы.

Няўжо гэты забыты промысел аднаўляецца?

ЛІДА

Але жывёлу крадуць ня толькі з пашы. Так, з фермы экспэрымэнтальнай базы "Ніва" у в.Гімбуты скралі двух цялят, нягледзячы на тое, што яна ахоўваецца, але,праўда, на паперы.

***

Цэлы тыдзень раздумваў вадзіцель мясцовага аўтакамбінату N3: ісьці ў міліцыю ці не. Заявіць - падымуць на сьмех, а не пайсьці - грошай шкада - звыш мільёна рублёў, якія прапалі з летніка якраз пасьля добрай п'янкі ў сваёй кватэры з малазнаёмым хлопцам.

**Г.СЫСОЙ.**

## АБСТРАЛЯНЫ ГРУЗАВІК

27 траўня ў органы ўнутраных спраў зьвярнуліся вадзіцелі жытомірскага СП "Подольмазсервис". Яны паведамілі, што паблізу вёскі Санюкі Ельскага раёну невядомыя на іншамарцы з беларускімі дзяржаўнымі нумарамі абагналі іх "МАЗ-супер" і зрабілі тры стрэлы з паляўнічай стрэльбы. Вадзіцелі не нацярпелі й не спыніліся, а злачынцы зьнiклі.

У той жа дзень з стаянкі матэля "Мінскі" зьнік грузавік "Volvo", які належыць польскай камэрцыйнай фірме. Вадзіцель, якога невядомыя злачынцы захапілі й трымалі пэўны час, ня можа прыпомніць месца, дзе ён быў, і назву фірмы, якой ён прывёз груз.

**СІМ**

## БЕЛАРУСКІЯ ГІМНАСТЫ - МАЦНЕЙШЫЯ Ў ЭЎРОПЕ

Перамогай гімнастаў зборні Беларусі завяршыўся ў Празе чэмпіянат Эўропы. Да апошняга нумару праграмы прэтэндэнтам на "золата" не без падстаў лічылася мужчынская каманда Расеі, якой кіруе знакаміты трэнер Леанід Аркаеў. Ня здолелі расейцы ўлічыць адзін фактар - фэнаменальную падрыхтоўку гімнастаў зборні Беларусі. У выніку, наша каманда на 0,44 бала апярэдзіла Расею і ўпершыню ўзьнялася на гімнастычны Эўрапэйскі Алімп. У складзе "залатой" дружыны выступалі Віталь Шчэрба, Іван Іванкоў, Андрэй Кан, Аляксандр Шостак, Віталь Рудніцкі. Між іншым, І.Іванкоў месяц таму у Аўстраліі стаў абсалютным чэмпіёнам сьвету ў шматбор'і.

## ГАРАДЗЕНЕЦ Э.ХАМЯЛЯЙНЕН ІДЗЕ НА СУСЬВЕТНЫ РЭКОРД

Толькі 156 ачкоў не хапіла дзесяціборцу з Горадні Эдуарду Хамяляйнену, каб усталяваць новы сусьветны рэкорд у гэтым відзе лёгкай атлетыкі. На праходзячым у аўстралійскім горадзе Гетцысе міжнародным турніры сэрыі Гран-пры наш зямляк заняў першае месца й паказаў у выніку выдатны рэзультат - 8735 ачкоў. Як адзначаў пасьля фінішу гарадзенскі дзесяціборац, сусьветны рэкорд амэрыканскай зоркі Дэна О'Брайэна (8891), усталяваны два гады таму, ён паспрабуе палепшыць ужо ў жніўні - на чэмпіянаце Эўропы ў Хельсінкі.

## У ФУТБАЛІСТАЎ ЦЯПЕР НОВАЯ ГАЛАВА

Эфэктам узарванай бомбы ў безканфліктным беларускім футболе зьявілася заява галоўнага трэнера менскага "Дынама" і нацыянальнай зборні краіны Міхала Вергеенкі аб звальненьні яго з гэтых пасад. Прычына - непаразуменьні з кіраўніцтвам акцыянэрнага таварыства "ФК Дынама". Як зазначыў у адным з інтэрв'ю спадар Вергеенка, ён "не жадае быць бязплатным дадаткам да каго-небудзь". За пяць тураў да заканчэньня чэмпіянату праўленьне футбольнага клюба задаволіла прозьбу трэнера. Прызначаны новы кіраўнік каманды - гэта добра вядомы ў Беларусі спэцыяліст футбола Веніямін Арзамасцаў.

У сваю чаргу Фэдэрацыя футбола РБ пасьля нядоўгіх дэбатаў зацьвердзіла на пасадзе галоўнага трэнера зборні Сяргея Бароўскага, які ў апошні час узначальваў "ФК Маладзечна". Ужо восеньню наша нацыянальная каманда ўпершыню прыме ўдзел у адборачных гульнях чэмпіянату Эўропы. Сярод кандыдатаў зборні - гарадзенскі футбаліст Сяргей Гурэнка.

## «ГРЭКА-РЫМЛЯНЕ» ВЫХОДЗЯЦЬ НА ЭЎРАПЭЙСКІ ДЫВАН

Толькі тыдзень застаўся да дэбюту гарадзенскіх барцоў грэка-рымскага стылю ў першым клюбным чэмпіянаце Эўропы. Згодна з рэгламэнтам, які зацьвердзіла ў Афінах Міжнародная фэдэрацыя барaцьбы, сапернікамі беларускіх атлетаў у адной з груп будуць спарцмэны Чэхіі, Балгарыі і Румыніі. 18-19 чэрвеня ў Горадні пройдзе першая сустрэча ў рамках Эўрапэйскага чэмпіянату - з румынамі. У наступныя выхадныя ў Бухарэсьце - паўторны матч.

## ГАНДБАЛІСТЫ ПАКАЗВАЮЦЬ ХАРАКТАР

Першы ў гісторыі гандбола чэмпіянат Эўропы, які цяпер праходзіць у партугальскім горадзе Алмада, кожны дзень прыносіць многа нечаканасьцяў. Сярод "парушальнікаў" спакою - зборня Беларусі. У стартавай гульні нашы хлопцы перамаглі зборню Нямеччыны - 24:23. Аднак у другой сустрэчы - з расейскай камандай - прыйшлося саступіць.

Затое нашай дружыне ўдалося без цяжкасьцяў перамагчы зборню Румыніі. Але, на жаль, учора беларусы прайгралі французкай зборні. Вынік - 32:29.

У складзе беларускай дружыны выступаюць тры гандбалісты з Гарадзеншчыны - гэта браты Аляксандр і Андрэй Мінеўскія, а таксама Андрэй Барбашынскі.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЗБОРНЯ БЕЛАРУСІ ПРАЙГРАЕ

У спорткомплексе "Уруччa" праведзена першая афіцыйная сустрэча нацыянальнай зборні Беларусі па міні-футболу.

На жаль, беларускія майстры прайгралі свайму саперніку - нацыянальнай зборні Украіны з лікам 1:2.

Адзін мяч для нашай зборні за 10 хвілін да заканчэньня гульні здабыў С.Лагоцька. Менавіта яму ўручаны прыз спонсара зборні - менскага мініфутбольнага клюбу "Менск" у 150 тысяч беларускіх рублёў.

**Г.Н.**

## Гарадзенская Вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны, Беларусі, час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабытак нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы й культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'яднацца пад штандарам Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне". Уступайце ў БНФ!

Пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.

**СПАРЫШ**

па цэнах, ніжэй за рынычныя, мае на продаж
— бухгалтарскія калькулятары **CITIZEN**;
—тэлефоны, факсы **PANASONIC**;
— відэа- і аўдыёкасеты **TDK**;
—касавыя апараты **SAMSUNG**.
*АПЛАТА ЗА БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЬЛІК.*
*ТЭЛЕФОН У ГОРАДНІ 31-78-94.*

**"ПАГОНЯ"**
**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**
**Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**
**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.**
**Фотанабор, афсэтны друк.**
**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**
Заказ 2393.
Тыраж 3651 паасобнік.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012